Сіняк, С. А. Арганізацыйнае афармленне беларускіх секцый РКП(б) / С. А. Сіняк // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 6 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск БГУ, 2011. — С. 138 – 145

**С. А. Сіняк**

# АРГАНІЗАЦЫЙНАЕ АФАРМЛЕННЕ БЕЛАРУСКІХ СЕКЦЫЙ РКП(б)

Нацыянальныя секцыі РКП(б) — гэта спецыяльныя арганізацыі, што ствараліся пры партыйных камітэтах тых паветаў і губерняў, дзе былі кампактныя і значныя групы прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей, якія не ведалі рускай мовы і складаліся ў асноўным з каланістаў, бежанцаў і ваеннапалонных. Нацыянальныя секцыі, безумоўна, былі часткай нацыянальнай праграмы бальшавікоў і ва ўмовах пачатковага этапу сацыяльных пераўтварэнняў павінны былі садзейнічаць мабілізацыі рэсурсаў нацыянальных меншасцей краіны [22, с. 148].

Секцыі ў пэўнай ступені былі аўтаномнымі ў сваіх справах [36, с. 71—72]. Гэта важная акалічнасць дазваляла ім выходзіць за рамкі задач, якія вызначаліся ЦК партыі і мясцовымі партыйнымі камітэтамі. Аддаючы ў сваёй дзейнасці важнае месца нацыянальнаму пытанню, секцыі, разам з нацыянальнымі камісарыятамі, паслужылі зародкамі нацыянальнай дзяржаўнасці, асяродкамі, у рамках якіх крышталізавалася ідэя нацыянальнай дзяржаўнасці і выпрацоўваліся канкрэтныя мерапрыемствы па яе рэалізацыі.

**Працэс арганізацыйнага афармлення беларускіх секцый РКП(б).** Летам 1917 г., калі толькі праца Беларускай сацыялістычнай грамады (далей — БСГ) у Пецярбургу пашырылася на заводы, у яе склад увайшло некалькі дзясяткаў членаў РСДРП(б). Апошнія былі з розных фабрык і заводаў Пецярбурга, але галоўнае іх ядро складалася з пуцілаўскіх рабочых. Калі, нарэшце, афармілася Нараўская арганізацыя БСГ, даволі значная па ліку членаў, вялікая частка апошніх належала адначасова і да РСДРП(б). Усе партыйныя абавязкі яны выконвалі аднолькава старанна ў адносінах да абедзвюх партый [7, с. 73]. На сходах БСГ выступленні прадстаўнікоў Нараўскай арганізацыі выразна адрозніваліся: яны акцэнтавалі ідэю сацыяльна-класавай барацьбы ў процівагу ідэі адзінага нацыянальнага фронту [7, с. 75].

Ва ўмовах рэзкага абвастрэння восенню 1917 г. палітычнага процістаяння ў краіне, пры сацыяльнай неаднароднасці і палітычнай няўстойлівасці БСГ у ёй хутка нарасталі ўнутраныя супярэчнасці паміж памяркоўнымі дзеячамі — прыхільнікамі рэфармісцкага шляху развіцця, і тымі, хто быў гатовы перайсці на леварадыкальныя пазіцыі, блізкія да бальшавіцкіх [1, с. 412]. Паступова на такія пазіцыі перайшла Нараўская арганізацыя БСГ, якая ў канцы верасня 1917 г. была перайменавана ў Беларускую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю (далей — БСДРП) і прыняла праграму і статут РСДРП(б) [7, с. 75].

Спачатку БСДРП налічвала каля 500 чалавек, у асноўным рабочых, пазней да яе далучылася Гельсінгфорская арганізацыя БСГ, якая аб'ядноўвала каля 200 маракоў Балтыйскага флоту. У выканаўчы камітэт БСДРП уваходзілі А. Р. Чарвякоў, І. В. Лагун, Ю. У. Памецка, У. В. Скарынка, А. Х. Усціловіч і інш. Члены БСДРП прымалі актыўны ўдзел ва ўзброеным кастрычніцкім паўстанні ў Петраградзе [9, с. 42]. Гэта партыя праводзіла актыўную работу сярод беларусаў у Петраградзе і яго ваколіцах, мела сваё прадстаўніцтва ва УЦВК.

Далейшы рост унутраных супярэчнасцей унутры БСГ прывёў на яе трэцім з'ездзе ў канцы кастрычніка 1917 г. да выразнага падзелу партыі на два крылы — левае, прадстаўнікі якога працавалі галоўным чынам у Петраградзе, і правае [7, с. 76]. З развіццём рэвалюцыі адбывалася паступовае памяншэнне ўплыву БСГ у Петраградзе і скарачэнне яе асабовага

**Синяк Сергей Александрович** — аспирант кафедры истории Беларуси нового и новейшего времени Белорусского государственного университета

складу праз ад'езд з горада дэмабілізаваных салдат і пераход часткі членаў БСГ у іншыя партыі, у тым ліку ў склад БСДРП [6, с. 163—164]. Выступаючы за далейшае развіццё класавай барацьбы супраць ідэі «агульнанацыянальнасці», Пецярбургская арганізацыя адступала ад праграмы БСГ і ідэйна набліжалася да бальшавікоў. Лагічна стваралася становішча для пераходу левай БСГ у шэрагі БСДРП. У канцы сакавіка — пачатку красавіка 1918 г . Пецярбургская арганізацыя БСГ фактычна перастала існаваць [7, с. 78].

БСДРП і члены левай БСГ удзельнічалі ў стварэнні Белнацкама. Пасля пераезду Белнацкама ў Маскву тыя члены БСДРП, што засталіся ў Петраградзе, увайшлі ў мясцовую арганізацыю РКП(б) на правах секцыі. Захавалася кароткае паведамленне, апублікаванае ў «Петраградскай праўдзе», якое сведчыць аб тым, што рашэнне ўступіць у РКП(б) было прынята на сходзе партыі 11 красавіка 1918 г. [10, с. 64]. Секцыя была створана пры Пецяргофскім райкаме РКП(б) [27, арк. 72] і налічвала не менш за 25 членаў [13].

Петраград быў надзвычай інтэрнацыянальным горадам. У 1918 г., у выніку эвакуацыі бежанцаў і рабочых з заходніх губерняў Расіі, з 2 мільёнаў яго жыхароў 500 тыс. складалі прадстаўнікі больш 20 нярускіх нацыянальнасцей [22, с. 149]. З іх беларусы яшчэ да другой хвалі бежанцаў у лютым — сакавіку 1918 г. складалі больш за 100 тыс. [20, с. 57].

Арганізацыйны сход членаў беларускай секцыі пры Пецяргофскім райкаме РКП(б), а таксама беларусаў — членаў іншых раёнаў Петраградскай арганізацыі, што адбыўся 23 кастрычніка 1918 г. у памяшканні клуба «Беларуская хатка», узяўшы да ўвагі шматлікасць беларусаў у Петраградзе, прыняў рашэнне хадайнічаць перад Петраградскім камітэтам аб стварэнні секцыі беларусаў непасрэдна пры Петраградскай арганізацыі [30, арк. 6]. Па стану на жнівень — верасень 1918 г. у складзе 12 раёнаў знаходзілася ў сукупнасці 105 камуністаў-беларусаў [28, арк. 51] (3,6 % ад агульнай колькасці камуністаў Петраградскай арганізацыі) [28, арк. 16]. Секцыя пры Петраградскім камітэце РКП(б), з правам мець сваю пячатку (да гэтага секцыя карысталася пячаткай Беларускага аддзела камісарыята нацыянальнасцей Саюза Камун Паўночнай вобласці), была зацверджана 26 лістапада 1918 г. [32, арк. 11]. Бюро секцыі зацверджана Петраградскім камітэтам РКП(б) не пазней 28 лістапада 1918 г. [29, арк. 7]. У яго склад у розны час уваходзілі А. Х. Усціловіч, М. Я. Козыраў, Р. Р. Каўшыла, М. І. Сосна, А. Я. Казадоеў, А. І. Макарэвіч, Ю. У. Памецка, Ф. Д. Балбека.

У канцы кастрычніка 1918 г. секцыя налічвала 39 чалавек [33, арк. 24—24 адв.]. На працягу лістапада 1918 г. — студзеня 1919 г., па меры росту спадзяванняў, звязаных са стварэннем беларускай дзяржаўнасці, колькасць членаў хутка расце: па стану на 14 снежня 1918 г. — членаў секцыі — 92, спачувальнікаў — 118 [8, с. 95], на 21 снежня (першая канферэнцыя беларускіх секцый РКП(б) — 98 членаў, 108 спачувальнікаў [11, с. 59], на 9—11 студзеня 1919 г. — 109 членаў і 168 спачувальнікаў [33, арк. 10 адв. — 13, 22—23 адв.].

Па выніках апрацоўкі 95 анкетных лістоў членаў Петраградскай беларускай секцыі магчыма скласці сацыяльны партрэт самай буйной беларускай камуністычнай секцыі. 4/5 членаў — выхадцы з заходніх і цэнтральных раёнаў Беларусі. Толькі 12,6 % членаў уступілі ў РКП(б) да Першай сусветнай вайны, 1/4 — на працягу 1917 г., 42,1 % — 1918 г. (22,1 % — на працягу верасня — снежня 1918 г.), 1/5 — на пачатку 1919 г. Пры гэтым 11,6 % членаў секцыі мелі ўзрост да 20 гадоў, 17,9 % — 21—25 гадоў, 25,3 % — 26—30, 17,9 % — 31—35, 15,7 % — звыш 35 гадоў. Амаль палова членаў не мелі сем'яў, толькі 15,8 % мелі дзяцей. 46,4 % — гэта супрацоўнікі сілавых структур (армія, флот, міліцыя, ахова, Надзвычайная камісія). Бачым, што 1/5 усіх членаў — супрацоўнікі Надзвычайнай камісіі, 12,6 % — члены Саветаў, 10,5 % — рабочыя. У склад секцыі ўваходзілі і 13 жанчын — 6 членаў і 7 спачувальнікаў (4,7 %). Сярод членаў секцыі 4,2 % раней належалі да левых эсэраў. Пры гэтым заўважым, што больш паловы анкетуемых не ўказала сваю ранейшую партыйную прыналежнасць [31].

У сувязі з наступленнем кайзераўскіх войск, у сакавіку 1918 г. СНК, а ў яго складзе і Белнацкам на чале з лідарамі левaрадыкальнага напрамку беларускага нацыянальнага руху,

эвакуіраваўся з Петраграда ў Маскву. Тут таксама, як і ў Петраградзе, знаходзілася вялікая колькасць бежанцаў-беларусаў. Толькі ў канцы 1916 г., да другой хвалі бежанцаў у лютым — сакавіку 1918 г., у Маскве знаходзіліся 128 261 бежанцаў [20, с. 24].

Спроба стварэння беларускай секцыі пры ЦК РКП(б) мела месца ў канцы мая — пачатку чэрвеня 1918 г. 25 мая адбыўся арганізацыйны сход 12 членаў РКП(б) і 2 спачувальнікаў [5, арк. 1], у ліку якіх былі савецкія работнікі, эвакуіраваныя з акупіраваных кайзераўскімі войскамі раёнаў Беларусі — Міра, Нясвіжа, Пінска, Слуцка, Мінска [16, арк. 5]. Змест пратакола арганізацыйнага сходу дазваляе меркаваць, што спроба стварэння секцыі, магчыма, адбылася па ініцыятыве беларускай секцыі пры ЦК левых эсэраў, па меншай меры — пад уплывам факта ўтварэння такой секцыі [5, арк. 1]. Але гэтае пытанне патрабуе вывучэння. Выбранаму на арганізацыйным сходзе бюро секцыі было даручана хадайнічаць пра ўтварэнне пры ЦК РКП(б) беларускай секцыі з шырокім спектрам задач: агітацыйная работа на акупіраванай тэрыторыі Беларусі, падрыхтоўка Агульна-Беларускага з’езда камуністаў (было заяўлена, што з’езд ужо рыхтуецца сумесна з Украінай), выпуск партыйнай газеты, арганізацыя бежанцаў у Беларусі ў партыйныя ячэйкі і інш. [5, арк. 1].

Я. М. Свярдлоў пасля азнаямлення з матэрыяламі хадайніцтва даручыў К. І. Ландару даць заключэнне па сутнасці ўзнятага пытання і ахарактарызаваць названых ў прадстаўленым А. Р. Чарвяковым спісе асоб, удзельнікаў арганізацыйнага сходу [16, арк. 2, 8 адв.]. Ландар у сваім адказе даў скажоную карціну развіцця левардыкальнага напрамку беларускага нацыянальнага руху, выдзяленне якога, па Ландару, адбылося як рэакцыя на «цвёрды» курс нямецкіх акупацыйных улад у 1918 г. на непрызнанне беларускай дзяржаўнасці. Акрамя таго, у адказе было заяўлена, што пералічаныя ў спісе асобы савецкімі актыўнымі работнікамі не былі, у шэрагах партыі адсутнічалі і нікому «з Мінскіх і Смаленскіх таварышаў невядомы» [16, арк. 9 — 9 адв.]. Між тым дастаткова адзначыць, што ў спісе прысутнічаў А. Р. Чарвякоў — першы камісар па справах беларусаў. Ландар прапанаваў зацверджанне секцыі адкласці, рашэнне аб чым і было прынята Сакратарыятам ЦК РКП(б) [16, арк. 1]. Такім чынам, перш за ўсё з-за адмоўнай атэстацыі Ландара беларуская секцыя пры ЦК РКП(б) у канцы мая — пачатку чэрвеня не была створана. Але неабходна заўважыць, што факт звароту за атэстацыяй да Ландара сведчыць аб недаверы да беларускіх камуністаў і з боку ЦК.

Пасля няўдалай спробы стварэння Беларускай вобласці Белнацкам застаўся цэнтрам прыцягнення беларускага леварадыкальнага руху. Паступова расла колькасць камуністаў у складзе камісарыята: самі супрацоўнікі ўступалі ў партыю, частка камуністаў прыязджала з акупіраванай Беларусі [7, с. 80]. У ліпені 1918 г. [19] пры Белнацкаме была створана фракцыя беларускіх камуністаў-бальшавікоў, якая была зарэгістравана ў Цэнтральным бюро служачых у савецкіх установах Прэсненскага райкама РКП(б). Галоўнай мэтай фракцыі аб’яўлялася «сплочение в одну родственную по духу и национальным особенностям семью всех белорусов-коммунистов, проживающих в Москве и создание при Московском Комитете Р. К. П. белорусской секции и при Центральном Комитете Р. К. П. (большевиков), как центрального органа белорусских коммунистов-большевиков» [34].

3 лістапада, па ініцыятыве фракцыі камуністаў Белнацкама, у памяшканні культурна-асветніцкага аддзела Белнацкама, адбыўся сход 14 беларусаў-камуністаў, якія пражываюць у Маскве [35]. Сход пастанавіў «прызнаць канечна патрэбным заснаванне Беларускай (Маскоўскай) секцыі Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў), якой належыць зарэгістравацца ў адпаведным партыйным органе ў Маскве» [7, с. 80]. У якасці бліжэйшай мэты арганізуемай секцыі было вызначана скліканне канферэнцыі ўсіх камуністычных арганізацый і груп, што знаходзяцца як на тэрыторыі Савецкай Расіі, так і па-за яе межамі, для стварэння аднаго магутнага кіруючага цэнтра Беларускай камуны, які з поспехам мог бы ўзяць у свае рукі арганізацыю і аб’яднанне працоўных мас Беларусі, пад лозунгам узнаўлення ў краі Савецкай улады ў цеснай федэрацыі з Расійскай Савецкай Рэспублікай [35]. 14 ліста-

пада 1918 г. Прэсненскі райкам РКП(б) зацвердзіў беларускую секцыю з правам мець пячатку [7, с. 80]. 24 лістапада 1918 г. адбыўся першы агульны сход секцыі, на якім быў выбраны яе камітэт: З. Ф. Жылуновіч, П. Г. Клыш, З. С. Чарнушэвіч, А. Р. Чарвякоў, А. Дзедзя, І. С. Няцецкі, Я. Л. Дыла, І. Мазур, У. С. Фальскі [19]. За адносна кароткі час секцыя прыцягнула да сябе беларусаў-камуністаў савецкіх устаноў г. Масквы і разраслася да значнай колькасці актыўных партыйных работнікаў. На пачатак снежня 1918 г. Маскоўская секцыя налічвала каля 50 чалавек [3, с. 363], на час правядзення Першай канферэнцыі беларускіх секцый РКП(б) — 42 камуніста і 14 спачувальнікаў [11, с. 59].

Вялікая колькасць бежанцаў-беларусаў апынулася ў Паволжы. У Саратаве ў вельмі неспрыяльных умовах на канец 1918 г. знаходзілася каля 20 тыс. бежанцаў-беларусаў, у Саратаўскай губерні — да 42 тыс. [11, с. 62]. Для забеспячэння іх патрэб, арганізацыі агітацыйна-палітычнай работы, у канцы ліпеня пачалася падрыхтоўка да адкрыцця аддзела Белнацкама ў Саратаве [14, с. 90]. У канцы ліпеня 1918 г. сярод беларусаў Саратава камуністаў яшчэ не было [25, с. 307], таму першыя беларускія камуністы з'явіліся тут у жніўні — пачатку верасня 1918 г. Арганізацыйны сход беларускай секцыі РКП(б) пры Саратаўскім губкаме адбыўся, па розных даных, 15 [25, с. 333] ці 23 верасня [11, с. 62]. На час правядзення першай канферэнцыі беларускіх секцый РКП(б) Саратаўская секцыя налічвала да 30 камуністаў і 32 спачувальнікаў. На канферэнцыі яе прадстаўлялі А. В. Пратакоўскі, Б. Ю. Бяганскі і А. Я. Баркоўскі. Росту колькасці членаў секцыі не спрыяла цяжкае становішча бежанцаў і, як вынік, іх у большасці нядобразычлівыя адносіны да камуністаў [11, с. 62].

Значная колькасць бежанцаў з Беларусі знаходзілася на тэрыторыі Тамбоўскай і Самарскай губерняў (на 1 студзеня 1917 г. — 126 916 [26, с. 23]). Не раней 27 верасня 1918 г., калі быў створаны Тамбоўскі павятовы камітэт РКП(б) [12, с. 20], у Тамбове аформілася беларуская секцыя. Аб тым, з каго была арганізавана секцыя, аб яе колькасці даведваемся з даклада прадстаўнікоў секцыі У. Р. Ханіна і М. Ф. Драко-Дракона на першай канферэнцыі беларускіх секцый РКП(б): «Почти во всех учреждениях Тамбова ответственные места занимают белорусы, так что если бы все белорусы выехали для работы на Белоруссию, то в Тамбове и губернии Советская власть очутилась бы в самом критическом положении, без работников... Обилие политических работников-белорусов объясняется тем, что при занятии немецкими войсками Минской губ. и эвакуации в Смоленск Облискомзапа последний пошел вразрез с белорусами-коммунистами, работавшими в Минске, и поэтому им пришлось переброситься в Тамбовскую губернию». У секцыі было сарганізавана да 60 камуністаў і 100 спачувальнікаў [11, с. 62]. Узначальваў секцыю І. І. Пузыроў — галоўны ваенны кіраўнік павета і старшыня Тамбоўскага павятовага камітэта РКП(б) [4, с. 240—241].

Не раней чым у жніўні 1918 г. (стварэнне Казлоўскага павятовага камітэта [12, с. 30]) аформілася беларуская секцыя РКП(б) у Казлове (Тамбоўская губерня). Актыў секцыі склалі адказныя работнікі ўстаноў г. Казлова — А. З. Мадорскі (таварыш старшыні Казлоўскага Саўнаргаса, загадчык камунальнай гаспадаркі г. Казлова, старшыня секцыі), І. Г. Навумчык (член калегіі па народнай адукацыі г. Казлова, загадчык тэатральнага аддзела, таварыш старшыні секцыі), М. І. Вакульчык (камендант гарнізона г. Казлова, сакратар секцыі), У. Р. Лысюк (сакратар ваеннага камісарыята 3-га артылерыйскага дывізіёна, член камітэта секцыі) [18, арк. 49].

У Мінску афармленне беларускай секцыі РКП(б) адбылося ў снежні 1918 г. па ініцыятыве і прамым удзеле членаў Маскоўскай беларускай секцыі. На першай канферэнцыі беларускіх секцый член камітэта Маскоўскай секцыі Д. С. Чарнушэвіч паведамляў, што, «учитывая крайне серьезную необходимость агитационно-политической и организационной работы на местах в освобождающейся Белоруссии, Секция организовала посылку туда своих членов, лучших партийных работников. Первыми в начале декабря были командированы в Минск тт. Фальский, Клыш и Роздяловский; после них отправлено еще 11 человек» [11,

с. 61]. Яны хутка заснавалі ў Мінску секцыю і разгарнулі шырокую працу пад кіраўніцтвам Маскоўскай секцыі [6, с. 178]. Аб колькасці членаў секцыі прамых даных аўтарам не знойдзена. Але з інфармацыі Д. С. Чарнушэвіча можна дапусціць, што ў секцыі было сарганізавана па меншай меры да 15 чалавек. Колькаснаму росту перашкаджалі негатыўныя адносіны з боку мясцовай улады [11, с. 78], а таксама пастанова Мінскага раённага камітэта РКП(б) ад 26 снежня 1918 г., згодна з якой нацыянальным секцыям дазвалялася прымаць членаў толькі праз прадстаўленне кандыдатаў у партыйны камітэт на зацвярджэнне, самастойна ж прымаць членаў забаранялася. Акрамя таго, задачы любой секцыі, згодна з пастановай, абмяжоўваліся культурна-асветніцкай работай [5, арк. 11—11 адв.].

У Казані беларуская камуністычная секцыя была арганізавана, як і Мінская, па ініцыятыве Маскоўскай секцыі ў рамках працы па падрыхтоўцы першай канферэнцыі беларускіх секцый РКП(б) і збіранні беларускіх камуністычных сіл. На арганізацыйным сходзе, што адбыўся 4 студзеня 1919 г. [24, с. 275], у секцыю аднагалосна былі абраны 5 чалавек — Грэчнеў, Ацюхоў, Лашэў, Сідараў і Камішэвіч [2, с. 132—133]. Секцыя існавала зусім нядоўга: з-за нешматлікасці і адносна вялікіх расходаў Казанскі губкам 4 лютага прыняў пастанову аб ліквідацыі беларускай секцыі, што было адобрана і з боку ЦК РКП(б) [15, с. 265]. Але ўжо на працягу лютага секцыя была фактычна ўзноўлена ў складзе аб'яднананай літоўска-беларускай секцыі пры Казанскім губкаме [15, с. 107].

Пры Невельскім павятовым камітэце РКП(б) беларускай секцыі не існавала. У пратаколе Першай канферэнцыі беларускіх секцый РКП(б) А. Р. Бейлін і П. І. Волкаў ясна пазначаны як прадстаўнікі Невельскага павятовага камітэта [11, с. 75], а не беларускай секцыі пры ім. Да таго ж аўтарам не знойдзена ніводнага сведчання аб існаванні такой секцыі.

Арганізацыйнае афармленне беларускіх секцый фактычна завяршаецца стварэннем на першай канферэнцыі беларускіх секцый каардынацыйнага органа — Цэнтральнага бюро. Пастанова аб правядзенні канферэнцыі была прынята на першым пасяджэнні камітэта Маскоўскай беларускай секцыі РКП(б) 27 лістапада 1918 г. 21—23 снежня 1918 г. у Маскве, у памяшканні Белнацкама, адбылася канферэнцыя беларускіх секцый. На ёй прысутнічала 18 дэлегатаў ад беларускіх секцый у Петраградзе, Маскве, Саратаве, Тамбове, Мінску, што прадстаўлялі па меншай меры 230 камуністаў і 250 спачувальнікаў, а таксама 2 дэлегаты ад Невельскага павятовага камітэта РКП(б) [11, с. 59]. Канферэнцыя абрала Цэнтральнае бюро беларускіх камуністычных секцый, у склад якога ўвайшлі З. Ф. Жылуновіч (старшыня), Ф. Д. Балбека, І. С. Няцецкі, М. Ф. Драко-Дракон і А. Р. Чарвякоў. В. Л. Дыла атрымаў права быць кааптаваным у склад бюро ў выпадку адсутнасці кагосьці з членаў [11, с. 78].

Цэнтральнае бюро беларускіх камуністычных секцый не было зацверджана ЦК РКП(б). 17 [15, с. 195] і 18 студзеня 1919 г. [16, арк. 35—35 адв.] Маскоўская беларуская секцыя накіравала хадайніцтвы ў ЦК РКП(б) аб зацвярджэнні Цэнтральнага бюро, але ўжо 1 лютага член бюро Ф. Д. Балбека паслаў на адрас ЦК новую тэлеграму пра адкліканне гэтага хадайніцтва [16, арк. 37], матывуючы гэта ўтварэннем ЦБ КП(б)Б. Такое тлумачэнне выглядае нелагічным, бо ЦБ было створана на І з'ездзе КП(б)Б, да адпраўкі хадайніцтваў аб зацвярджэнні ЦБ беларускіх секцый РКП(б). Такое рашэнне наўрад ці было абумоўлена і тым, што з утварэннем КП(б)Б кіраўнікі беларускіх секцый прыйшлі да высновы аб немэтазгоднасці існавання секцый [10, с. 72]. Секцыі яшчэ адносна доўга існавалі ў Маскве (да канца ліпеня 1919 г.) [18, арк. 3], Саратаве (па стане на 1 снежня 1919 г.) [17, арк. 144 адв.]. Прычына ў іншым. Пасля ўтварэння ЛітБелССР беларускія камуністычныя секцыі пачалі аб'ядноўвацца з літоўскімі секцыямі і паўстала пытанне аб стварэнні аб'яднанага Цэнтральнага бюро. Таму часова, да канчатковага афармлення такога бюро (зацверджана Аргбюро ЦК РКП(б) 2 жніўня 1919 г.) [18, арк. 4 адв.], было вырашана ўскласці функцыі ЦБ беларускіх секцый на бюро Маскоўскай беларускай секцыі РКП(б) [18, арк. 3]. Колькасна, па гушчыні распаўсюджання, дынаміцы арганізацыйнага афармлення і актыўнасці работы беларускія камуні-

стычныя секцыі значна саступалі секцыям такіх заходніх народаў Расійскай імперыі, як эстонцы і латышы, менш відавочна — секцыям літоўцаў, і амаль не адрозніваліся ад украінскіх секцый. У той час як у канцы 1918 г. агульная колькасць членаў усіх беларускіх секцый складала прыкладна 230 чалавек, толькі ў Петраградзе адна эстонская секцыя напярэдадні лета 1918 г. налічвала больш за 1000 членаў, латышскія секцыі там жа — больш за 800, літоўская секцыя на 1 кастрычніка 1917 г. — 300 членаў, украінская — на канец 1918 г. — 130 (беларуская, для параўнання — 98) [21, с. 53—54]. У 1918—1919 гг. эстонскія секцыі існавалі не менш чым у 14 гарадах РСФСР, латышскія — у 7, літоўскія — у 6, украінскія — у 4, беларускія — у 6. Першая канферэнцыя эстонскіх секцый адбылася летам 1918 г., літоўскіх секцый — у студзені 1918 г. (было абрана Цэнтральнае бюро). Летам 1918 г. быў створаны і Усерасійскі цэнтр латышскіх секцый РКП(б) [36, с. 72—76]. Украінскія секцыі распаўсюджання не атрымалі, хутка самаліквідаваліся і каардынацыйнага органа не стварылі [21, с. 54], хаця на тэрыторыі РСФСР пражывала 7 млн украінцаў [36, с. 214]. Адной з прычын адносна слабага распаўсюджання ўкраінскіх секцый было ранняе ўтварэнне КП(б)У, якая адцягнула з Расіі значную колькасць украінскіх камуністаў. Акрамя таго, існуе выразная карэляцыя паміж інтэнсіўнасцю прааналізаваных параметраў і колькасцю працаўнікоў, занятых у прамысловасці, па даных Усерасійскага перапісу 1897 г.: сярод эстонцаў — 19,4 %, латышоў — 17,5, літоўцаў — 6,9, беларусаў — 6,5, украінцаў — 8,7 % [36, с. 22]. Гэта сведчыць аб тым, што сярод беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў, народаў аграрных, бальшавіцкая ідэалогія, лозунг пралетарскай дыктатуры не былі ўспрыняты ў той ступені, як сярод эстонцаў і латышоў, больш пралетарызаваных народаў.

Такім чынам, на працягу 1918 г. — пачатку 1919 г. на тэрыторыі РСФСР утварыліся 7 беларускіх секцый РКП(б), агульная колькасць якіх на час правядзення іх першай канферэнцыі ў Маскве 21—23 снежня 1918 г. складала не менш за 230 членаў і 250 спачувальнікаў. Найбольш буйная з іх — пры Петраградскім гаркаме РКП(б) была створана на аснове БСДРП, якая ў сваю чаргу мае карані ў «левай» БСГ. Другая па велічыні, але не менш уплывовая і якасная па складзе Маскоўская секцыя ўтварылася на аснове фракцыі супрацоўнікаў Белнацкама. У арганізацыі секцый у Тамбове і Казлове прымалі ўдзел тыя, хто не «спрацаваўся» з дзеячамі Аблвыкамзаха, Саратаўская секцыя ўтварылася ў сувязі з арганізацыяй аддзялення Белнацкама. Аснову Мінскай секцыі склалі члены Маскоўскай секцыі. Пры непасрэдным удзеле апошняй была ўтворана і Казанская секцыя.

Як у дзейнасці БСГ у 1917 г., так і Белнацкама ў 1918 г. галоўнае месца займала нацыянальнае пытанне. Маючы такія вытокі, а таксама пэўную аўтаномнасць у справах, беларускія секцыі РКП(б) галоўны сэнс свайго ўтварэння бачылі перш за ўсё не ў прапагандзе сацыяльных лозунгаў бальшавікоў, а ў збіранні лепшых нацыянальных сіл з мэтай далейшай арганізацыі нацыянальнага партыйнага цэнтра і на яго аснове ўсталявання ў Беларусі сапраўднай беларускай улады.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Біч, М. В.* Беларуская сацыялістычная грамада / М. В. Біч, С. С. Рудовіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. / рэдкал.: М. В. Біч [і інш.]. Мінск : «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1993—2003. Т. 1. 1993. С. 410—413.

2. Большевики Татарии в годы иностранной военной интервенции и гражданской войны (август 1918 — декабрь 1920): сборник документов и материалов / сост. Н. З. Замалеева, А. И. Лебедева, Н. А. Субаев; редкол.: Н. А. Андрианов, М. К. Мухарямов, В. П. Тимофеев. Казань : Татарское книжное издательство, 1961. 708 с.

3. Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг. Сборник документов и материалов: в 2 т. / сост.: Э. Л. Козловская [и др.]. Минск : Беларусь, 1968—1971. Т. 1: февраль 1918 г. — февраль 1919 г. 1968. 602 с.

4. Борьба рабочих и крестьян под руководством большевистской партии за установление и упрочение Советской власти в Тамбовской губернии (1917—1918 годы) / парт. архив обкома КПСС; архив. отдел УВД Тамб. обл. Тамбов : обл. типография «Пролетарский светоч», 1957. 202 с.

5. Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці. Ф. 39п (Мінскі губком РКП(б). — Воп. 1. Спр. 1. Пратаколы пасяджэнняў Мінскага раённага камітэта РКП(б) і мясцовага камітэта работнікаў Мінскага палявога склада Чырвонага Крыжа, справаздачы аб рэвалюцыйнай рабоце Мінскага краявога і Кайкоўскага (Мінскі павет) падраённага камітэтаў РКП(б) за люты — снежань 1918 г.

6. *Жылуновіч, З.* Арганізацыя сіл: (Да гісторыі Савецкай Беларусі) / З. Жылуновіч // Полымя. 1924. № 2 (10). С. 163—179.

7. *Жылуновіч, З.* Беларускія секцыі РКП і стварэнне Беларускай Савецкай рэспублікі / З. Жылуновіч // Полымя. 1928. № 10. С. 73—93.

8. *Каменская, Н. В.* Первые социалистические преобразования в Белоруссии / Н. В. Каменская. Минск : Изд-во АН БССР, 1957. 289 с.

9. *Ладысеў, У. Ф.* Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917—1939 гг.)/ У. Ф. Ладысеў, П. І. Брыгадзін. Мінск : БДУ, 2003. 307 с.

10. *Малашко, А. М.* Белорусские секции РКП(б) / А. М. Малашко // Путем борьбы и труда: По материалам науч. конф., посвящ. 70-летию образования БССР и Компартии Белоруссии / сост. И. С. Карпенко [и др.]; редкол.: Р. П. Платонов (рук.) [и др.]. Минск : Беларусь, 1989. С. 63—73.

11. *Михутина, И. В.* К вопросу о провозглашении Советской Социалистической Республики Белоруссии / И. В. Михутина // Славяноведение. 2008. № 4. С. 54—81.

12. *Окатов, Н. А.* Образование Тамбовской губернской организации РКП(б) / Н. А. Окатов // Вопросы партийного строительства в Центральном Черноземье, 1917—1933 гг.: сб. науч. тр. / под ред. Н. А. Окатова. Тамбов : Тамб. гос. пед. ин-т, 1988. С. 14—32.

13. Паміж беларусамі // Дзянніца. 1918. 1 мая. С. 4.

14. *Парре, А.* Годовой обзор национальных пролетарских организаций в Саратове / А. Парре // Годовщина социальной революции в Саратове / под ред. В. П. Антонова-Саратовского. Саратов : Типография Совета, отделение 4-е, 1918. С. 88—91.

15. Переписка Секретариата ЦК РКП(б) с местными партийными организациями (январь — март 1919 г.) / редкол.: В. В. Аникеев [и др.]. Сб. 6. М. : Политиздат, 1970. XXVIII. 564 с.

16. Расійскі дзяржаўны архіў сацыяльна-палітычнай гісторыі (РДАСПГ). Ф. 17 (Цэнтральны камітэт РКП(б). Воп. 4. Спр. 95 — Пратаколы, справаздачы аб сходзе членаў партыі акупіраваных мясцовасцяў Беларусі, І канферэнцыі беларускіх секцый РКП(б) і пісьмы, адозвы Гал. праўлення СДПіЛ, Маскоўскай беларускай секцыі аб скліканні канферэнцыі і абранні Цэнтральнага Бюро, аб задачах работы на акупіраваных тэрыторыях і інш.

17. РДСПГ. Ф. 17. Воп. 6. Спр. 278 — Пратаколы, справаздачы, даклады, інфармацыі, сводкі, пісьмы Саратаўскага губернскага і гарадскога камітэтаў РКП(б), павятовых камітэтаў, камітэта РКП(б) Ваеннага раёна г. Саратава і інш. аб рабоце губернскіх, гарадскіх і раённых партыйных арганізацый, аддзелаў губкама, мардоўскай партыйнай групы, аб правядзенні партыйнай нядзелі, аб стане ў губерні і інш.

18. РДСПГ. Ф. 17. Воп. 65. Спр. 48 — Перапіска з літоўска-беларускім аддзелам агітацыі і прапаганды пры ЦК РКП(б) і губернскім камітэтамі РКП(б) аб рабоце мясцовых партыйных арганізацый, аб скліканні канферэнцыі літоўскіх і беларускіх камуністаў, аб арганізацыі партыйнай работы ў Літве і Беларусі; справаздачы і пратаколы пасяджэнняў бюро маскоўскай беларускай секцыі РКП(б) і літоўска-беларускага аддзела агітацыі і прапаганды; спісы камуністаў-беларусаў, якіх напраўляюць для работы ў Беларусі.

19. *Скалабан, В. У.* Беларускія секцыі РКП(б) / В. У. Скалабан // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя: у 12 т. / рэдкал.: П. У. Броўка (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск : Галоўная рэдакцыя БелСЭ, 1969—1975. Т. 2. 1970. С. 260.

20. *Сташкевич, Н. С.* Приговор революции: Крушение антисоветского движения в Белоруссии (1917—1925) / Н. С. Сташкевич. Минск: Изд-во «Университетское», 1985. 304 с.

21. *Степанова, Л. П.* Вклад национальных секций Петроградской партийной организации РКП(б) в восстановление советской власти в Прибалтике, на Украине и в Белоруссии в 1918—1919 гг. / Л. П. Степанова // Вестн. Ленингр. ун-та. 1973. № 2. Вып. 1. С. 52—58.

22. *Степанова, Л. П.* Из истории культурно-просветительской деятельности национальных секций РКП(б) в Петрограде в годы гражданской войны / Л. П.Степанова, В. П. Яренгина // Культурно-просветительская работа в системе идеологической деятельности КПСС / редкол.: Е. Я. Зазерский (отв. ред.) [и др.]. Л. : ЛГИК, 1984. С. 147—154.

23. *Степанова, Л. П.* Национальные секции РКП(б) в Петрограде и Петроградской губернии в 1918—1920 гг.: автореф. дис. ... канд. ист. наук: 07.00.01 / Л. П. Степанова; Ленингр. гос. ун-т имени А. А. Жданова. Л., 1973. 19 с.

24. *Субаев, Н. А.* Партийное строительство в Татарии в годы иностранной военной интервенции и гражданской войны (1918—1920 гг.): дис. ... канд. ист. наук (570) / Н. А. Субаев; Казанский ордена Трудового Красного Знамени гос. ун-т им. В. И. Ульянова-Ленина. Казань, 1963. 304 с.

25. Хроника революционных событий в Саратовском Поволжье 1917—1918 гг. / отв. ред. Г. А. Герасименко. Саратов : Приволж. книж. изд-во, 1968. 419 с.

26. *Цуба, М. В.* Дзейнасць беларускіх бежанскіх арганізацый на тэрыторыі Расіі падчас першай сусветнай вайны (жнівень 1915 — люты 1917 г.) / М. В. Цуба // Весн. Палескага дзярж. ун-та. Сер. грамад. і гуманіт. навук. 2009. № 2. С. 23—27.

27. Цэнтральны дзяржаўны архіў гісторыка-палітычных дакументаў Санкт-Пецярбурга (ЦДАГПД г. Санкт-Пецярбурга). Ф. 1 (Петраградскі камітэт РКП(б). Воп. 1. Спр. 64 — Пратаколы пасяджэнняў Пецярбургскага камітэта РКП(б) і справаздача аб дзейнасці Пецярбургскага камітэта РКП(б) за 1918 г.

28. ЦДАГПД г. Санкт-Пецярбурга. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 121 — Лічбавыя табліцы, якія адлюстроўваюць склад Петраградскай арганізацыі (зводныя і па раёнах) па тэрміну паступлення, па прафесіі, нацыянальнасці і адукацыі, поле і ўзросце, па відах рэпрэсіі за жнівень — верасень 1918 г.

29. ЦДАГПД г. Санкт-Пецярбурга. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 1350 — Беларуская секцыя. Пратаколы пасяджэанняў бюро секцыі.

30. ЦДАГПД г. Санкт-Пецярбурга. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 1351 — Беларуская секцыя. Пратаколы агульных сходаў камуністаў-беларусаў і членаў культурна-асветнага клуба «Беларуская хатка».

31. ЦДАГПД г. Санкт-Пецярбурга. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 1354 — Беларуская секцыя. Анкеты на членаў секцыі.

32. ЦДАГПД г. Санкт-Пецярбурга. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 1356 — Беларуская секцыя. Заявы аб прыёме ў партыю, выдачы партыйных дакументаў і розныя пасведчанні членаў секцыі.

33. ЦДАГПД г. Санкт-Пецярбурга. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 1359 — Беларуская секцыя. Спіс камуністаў і спачувальнікаў, членаў секцыі і членаў культурна-асветніцкага клуба «Беларуская хатка».

34. *Чернышевич, Д.* Белоруссия в опасности / Д. Чернышевич // Дзянніца. 1918. 25 кастр. С. 3.

35. *Чернушевич, Д.* Белоруссы-коммунисты / Д. Чернышевич // Дзянніца. 1918. 25 ліст. С. 4.

36. *Шарапов, Я. Ш.* Национальные секции РКП(б) / Я. Ш. Шарапов. Казань : Изд-во Казан. ун-та, 1967. 274 с.

## РЕЗЮМЕ

В статье анализируется объективный процесс оформления белорусских секций РКП(б) как организаций, создававшихся для консолидации лучших национальных сил с целью дальнейшей организации национального партийного центра и на его основе установления в Беларуси подлинно белорусской власти. Рассматриваются факторы процесса, организационные истоки, цели создания, социальный состав, численность секций. Проводится сравнение с процессами оформления национальных секций РКП(б) других западных народов бывшей Российской империи.

## SUMMARY

An objective process of the formation of the Belarusian sections of the RCP(b) as the organizations established for the consolidation of the best national forces with the view of the further creation of the national party centre and establishment of the real authority of the Belarusians in Belarus on this basis is analyzed in the article. The factors of the process, organizational origins, purposes of the establishment, social structure, quantity of the sections are considered. The comparison with the processes of the formation of the national sections of the RCP(b) of the other west nations of the former Russian Empire is made.

Статья поступила в редакцию 29 сентября 2010 г.